ЗМІТРОК МАРОЗАЎ НАРАДЗІЎСЯ
Ў 1954 ГОДЗЕ Ў ВЁСЦЫ ЯЗБЫ
КРУПСКАГА РАЁНА МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ.
ВЕРШЫ ЗМІТРАКА МАРОЗАВА
ДРУКАВАЛІСЯ Ў ЧАСОПІСАХ
«МАЛАДОСЦЬ», «БЕЛАРУСЬ»,
«РАБОТНІЦА І СЯЛЯНКА»,
«РОДНАЯ ПРЫРОДА»,
«СЕЛЬСКОЕ ХОЗЯЙСТВО БЕЛОРУССИИ»,
У ГАЗЕТАХ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»,
«ГОЛАС РАДЗІМЫ»,
«ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА», «СЕЛЬСКАЯ ГАЗЕТА»,
«НАСТАЎНІЦКАЯ ГАЗЕТА»,
«МАГІЛЁЎСКАЯ ПРАЎДА»,
У АЛЬМАНАХУ «ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ»,
А ТАКСАМА У ПЕРАКЛАДЗЕ
НА УКРАІНСКУЮ І РУСКУЮ МОВЫ.

ПЕРШАЯ КНІГА ПАЭТА

Змітрок Марозаў

# ПАД НЕБАМ БУСЛІНЫМ

**Вершы**

**МІНСК
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»
1982**

* * *

Даўніной прычашчоны не раз,
Як акрайцам духмянага хлеба,
Берагу я матулі наказ:
— Паважаць, сыне, працу трэба!

...Паважаць, сыне, працу трэба...—
Гэтым дзень пачынаецца мой.
Словы тыя — ўрадлівая глеба,
Я ж — зярнятка малое у ёй.

* * *

Землякоў пазнаю па мове,
Меладычнай, як песня жней,
Дзе пяшчота у кожным слове
Да глыбіняў душы кране,

Па напеве жанчын у свята:
«...у чужым двары ваду бяру...»
І па ветлівасці рук шурпатых...
Землякоў пазнаю па дабру.

* * *

З баразны пачынаецца поле,
З жаўруковай запеўкі — вясна...
У мяне найшчаслівая доля
І Радзіма навекі адна.
Уяўлю я сябе спелым насеннем,
Што калоссем памкне ў сіняву,
І, адчуўшы зямлі прыцягненне,
Прашапчу трапяткое: «Жыву!»

* * *

Накасіўшыся ўволю,
Упаду на пракос,
Ні трывогі, ні болю,
Толькі зорачкі рос.
Толькі конікаў гранне
Ў канюшыне густой
І Радзімы дыханне
Пад гарачай шчакой.

* * *

Плывуць хмурынкі мройным цугам
У веснавую далячынь,
І ранні жаўранак над плугам
Мажорным звонам поўніць сінь.

Заслухаўся араты песняй
І з твару аж памаладзеў,
Нібы ў далоні з паднябесся
Юнацтва жаўранак зляцеў.

* * *

Зноў у калгас прыйшла вясна.
Ад сну збудзіўшы наваколле,
Туркоча трактар. Баразна
Гукнула сейбітаў у поле.
За рэчкай, як падаць рукой,—
Я бачу новай вёскі вырыс,
Дзед Фёдар стомленай хадой
Прыйшоў зірнуць на першы выезд,
Падыхаць водарам палёў
І з аграномам паспрачацца,
Калі пачаць сяўбу аўсоў
І калі з лёнам адсявацца.
І гэтай ранняю вясной
Ён, у задумнасці высокай,
Ідзе не сцежкай палявой,
А баразёнкаю глыбокай.

* * *

«...Цябе і не ўгадаць, дзіцятка,—
Нібы дубочак той узрос!
А як твая мадзее матка?..
Як даўся бацьку сенакос?

Ці будзеш на радзіме ўлетку?..
А як там жонка?.. Доня як?
Спаткаў былую я суседку,
Не нагамонімся ніяк.

* * *

Начная змена адгула
Над соннаю раллёй,
Ідзе араты да сяла
Прытомленай хадой.
І жаўруковы хор пяе
Яму світальны гімн,
З барознаў сонейка ўстае,
Разбуджанае ім.

* * *

Ломіць рукі, сярэдзіна ные,
Дзе ж гадочкі мае маладыя?
А бывала, пайду жыта жаці,
Не маглі мяне дзесяць дагнаці.
А калі ў час ліхі аўдавела,
Дык касу каля ручак прыгрэла.
Ёй я горкія травы касіла,
Плугам раны зямелькі гаіла...
І паставіла дзетак на ногі,
Ды забралі ў мяне іх дарогі.

Мо пабачыць іх больш не паспею,
Бо штодня мая ношка цяжэе,
Ломіць рукі, сярэдзіна ные,
Дзе ж гадочкі мае маладыя?

* * *

Ціхі плёскат рачулкавай хвалі,
Зыркі сполах вячэрняй зары.
У сяле радыёлы зайгралі —
Знаць, дадому прыйшлі плугары

І, пасеўшы ў зацішку на лаўках,
Удыхаюць пах весняй зямлі.
У эфіры — канцэрт па заяўках,
На руках не смыляць мазалі.

* * *

Вясновы вечар. Ад таполяў
Даўжэюць цені на зямлі.
Разносіць ветрык на прыволле
Духмянасць свежае раллі.

Садзіцца сонца за хаціны,
Пазалаціўшы край аблок.
Цямнее. З кожнаю хвілінай
Вастрэй пачуцці, слых і зрок.

## ПЕРАД СЯЎБОЙ

Якая позняя вясна!
Імжысты дождж цярусіць з неба,
І напілася баразна,
А яравыя сеяць трэба.

«Пасей у гразь і будзеш князь!» —
Гаворыць прымаўка старая.
Пярэчыць сэрца: «Ў гразь не ўлазь,
Яна сягоння — ледзяная.

Пасей і будзеш шкадаваць —
Загіне добрае насенне»...
Прырода можа даравць,
А ці даруе мне сумленне?

* * *

Жніво. Гудзе калгасны ток,
Твар хлебароба — ў кроплях поту,
Адкінуў шуфлю ён убок,
Карэц з вадой паднёс да роту.

Ён п'е са смакам, у ахвоту,
На шыі — нітачкі вады.
Пакрылі ж твар не кроплі поту —
Зярняты шчырай дабраты.

* * *

Поўні ліхтар над полем,
Камбайнаў свецяцца вочы,
Рокат калыша прыволле
Жнівеньскай цёплай ночы.

Што табе, неба, сніцца
Гэтым паўночным часам?
У зерняпадзе пшаніцы
Знічкі начныя гаснуць.

* * *

Над жытамі цэлы тыдзень тчэцца
Аблажная, нудная імжа,
Каласы, што радавалі сэрца,
На зямлі, счарнелыя, ляжаць.

Не суняць цяпер тугі бясконцай,
Бо ў палеглай, мокрай збажыне
Тысячы жывых маленькіх сонцаў
Назаўжды патухлі для мяне.

На зямлю сыходзіць шызы вечар,
І хаця да ніткі я прамок,
Прад табою, поле, зноў укленчу,
Абагрэю кволы каласок.

* * *

Роднае прыволле,
Ластавак арэлі,
Над сасмяглым полем
Воблакі спацелі.

Вось яны няспешна
Сонейка закрылі,
Пакручастаю сцежкай
Кроплі запылілі.

І, адчуўшы волю,
Роўны, спорны лівень
Паімчаў праз поле,
Як хлапчук шчаслівы.

Шэранню густою
Далеч узялася.
Чуў я: над зямлёю
Музыка лілася.

* * *

Жывым камячком з блакіту
Упаў жаўрук у жыта,
І песні яго адгалоссе
Люляе пяшчотна калоссе.

* * *

Усё радзей збіраюцца на спеўкі
Вясковыя прыветныя жанкі,
Ужо даўно не слухаў я прыпеўкі
Пад вербамі ля сцішанай ракі.

Усё радзей... Мо следам за кудзеляй
Сплывуць вясковых цётак галасы?..
У вокнах хат гарацЬ вясёлкі тэле —
Як хораша спяваюць «Верасы»!

* * *

Над садам белыя аблокі
У незваротны шлях плывуць,
З арбіты жніўня крутабокай
Спадаюць яблыкі ў траву.

Бярозкі кволая істота
Таемнай поўная тугі,
Буслоў сям'я перад адлётам
Абходзіць дружна мурагі.

Я ім кажу: «Да пабачэння!
Чакаць вас буду на вясне.
Хай родных гнёздаў прыцягненне
Ніколі вас не абміне!»

* * *

Раніца. На двары.
Высокую ноту бярэ
Певень, ды, пэўна, не так —
Голас сарваў — бядак.
Ляжу на вышках у сене,
Сонца ласкавай жменяй
Промні шле праз акенца.
Куды мне ад іх падзецца?
Сну усё меней, меней...

* * *

Золак выткаў срэбныя эцюды.
Ластаўкі прачнуліся ў гняздзе.
Я нясу ў руках ад студні суды,
Плешчацца дзянніца ў вадзе.
У паветры — слодыч сырадою,
Час кароў на пашу выганяць.
І чуваць, як недзе за ракою
Косы песняй ліпеня звіняць.

* * *

Зноў пад небам буслiным
Зарыдалі вятры,
Палымнеюць рабіны,
Як жывыя кастры.

На збуялы палетак
Шоўк сярэбраны лёг —
Вёска бабіна лета
Прычакала здалёк.

* * *

Зіма. Мароз. Снягі. Завеі.
Вясна. Цяпло. Вада. Лілеі...
Усё змяняецца бясконца!
За ноччу — дзень,
                    за цемрай — сонца.
За пакаленнем — пакаленне.
За чалавекам — чалавек.
І толькі з жытняга насення
Нязменна — колас.
                    З веку ў век.

* * *

Вечаровае неба.
След марознай зары.
Пахне печаным хлебам
На вясковым двары.
Чую гоман калосся,
Шэпт саломы ржаной.
Пахне хлеб на марозе
Жытам, цёплай зямлёй.

* * *

«Калі нараджаюцца дочкі,—
Вайны на Зямлі не будзе...»
Дзіця з асалодай смокча
Налітыя сонцам грудзі.

Здаецца, сама Мадонна
З вядомай сышла карціны.
Віншуюць: «З дачкой, Алёна!»
Сягоння яе радзіны.

Жадаюць маленькай шчасця
Расчуленыя кабеты:
«Хай хмары ёй свет не засцяць!»...
І верыцца мне ў прыкмету.

* * *

Саматканыя ручнікі:
Радасць, смутак, бяссонне вёсак.
Размаўляюць са мной вякі,
Пакаленні, людскія лёсы.

Неба весняга жаўрукі
І валошкавая прахалода...
Саматканыя ручнікі —
Твор крынічнай душы народа.

* * *

Гарацъ купальскія кастры,
Начныя асвятляюць далі.
Дзе ж вы, музыкі — гусляры,
Што на купалле тутігралі?
Не чуць музыкаў анідзе
(Іх памінаем добрым словам...),
Калыша рэчка на вадзе
Адзін вянок маладзіковы.
Шчупак пялёснуў у віры,
Гармонік дзесь зайграў сіпата...
Гараць купальскія кастры,
Ды мне чамусьці сумнавата.

* * *

Нада мной начное неба
Зор запальвае агні,
Дзядзькаў конь бяжыць як трэба
Па крамянай палазні.
Вось бярэзнічак знаёмы,
Да сяла — рукой падаць,
Пэўна, маці з бацькам дома
За вячэраю сядзяць.
Дзве мазольныя далоні
Хлеб трымаюць аржаны.
(Лусты важкія сягоння,
Быццам праўда баразны.)
Прыслухоўваецца бацька
Да марознай цішыні...
Прыструні ляйчыну, дзядзька,
Летуценні не гані.

## ПАМЯЦІ ДЗЯДЗЬКІ

Ах, дзядзька Проша, дзядзька
Проша,
Куды ж ты рана так пайшоў?
Уночы выпала пароша,
Не адшукаць тваіх слядоў.
Твая тальянка не маніла,
Вучыла дабраце мяне.
Стаю, самотны, над магілай,
А прад вачыма — чорны снег.

* * *

Палавее жыта,
Жыта палавее,
Тое, што пражыта,—
За якой завеяй?..
Ні згрызот, ні болю,
Толькі шэпт жытнога,
Толькі я і поле,
Ўдалячынь дарога.

* * *

Гляджу на заранкі палоску,
Якая насустрач плыве.
«У вёску, у вёску, у вёску!» —
Цягнік урачыста заве.
Праз фортку даспелае жыта

Дыханнем жніва абдае,
У раннім святле краявідаў
Дзяцінства маё паўстае.
І бачу я тую бярозку,
З якой гадаваўся і рос...
«У вёску, у вёску, у вёску!» —
Гул колаў ляціць да нябёс.
Я скіну ■ плячэй стомы ношку,
Ступіўшы на родны парог...
«У вёску, у вёску, у вёску!» —
Адвечная песня дарог.

* * *

Вёска прачынаецца з дасвеццем,
Калі жаўры у тумане спяць,
Певуны на хісткіх курашэсцях
Пачынаюць ранак услаўляць.
Хоць іх песні ў нерушы вясковым
Не гучаць адметнай навізной,
Без краіны дзён маіх вясновых
Нудна мне ў кватэры гарадской.
Роднай вёскі веснія суквецці
Свецяць месяцовай сівізной,
Я хачу самім жыццём пацвердзіць
Абяцанні, дадзеныя ёй.
Веру, да палеткаў я вярнуся
Не пыхлівым госцем — наўсягды,
Ў перашэпце жыта застануся
Непаўторным, светлым, маладым.

## УДЗЯЧНАСЦЬ

Дзякуй, дзякуй застоллю,
Што ўзняло так высока
Сонца жытняга поля —
Каравай крутабокі.
Хай ляжыць ён сягоння
На вясельным абрусе.
Хлебаробскім далоням,
Як зямлі, пакланюся.

* * *

У Беларусі магіл — як бяроз,
У Беларусі бяроз — як магіл.
Кожны чацвёрты з зямлі ўзрос
Помнікам нашай тугі.

* * *

Праз раку заранічнай сцяжынкаю
Ціхі вечар у вёску прыйшоў.
Дзве бабулькі — Параска з Аўгінкаю
Прыгадалі на лаўцы сыноў:
«Памятаеш, Параска, як некалі,
Перад самай, здаецца, вайной
Нашы хлопчыкі сватацца бегалі
Да дзяўчыны прыгожай адной?»
«А яна іх абодвух адпрэндзіла?

Як жа, помню выпадак я той!..
Можа, я Петруся не дагледзела?
Дзе ён спіць?.. У зямельцы якой?»
«А Валодзька мой недзе ля Кракава...
Дваццаць вёснаў было... Малады...
Колькі я за жыццё пераплакала,
Колькі выцекла з рэчкі вады?..»
Дзесь гітара тужлівая брынькае,
На гулянне склікае хлапцоў,
Болем сэрцы Параскі з Аўгінкаю
Развярэдзілі лёсы сыноў.

* * *

Зямля былыя гоіць раны
Дажджамі мірных небасхілаў...
Няма салдатаў безымянных,
Ёсць безымянныя магілы.
У іх пад шынялём мурожным
Мае равеснікі паснулі,
Спяваюць сумныя бярозы
Ім калыханкі, як матулі.

* * *

Была вайна. На гэтых пожнях
Няроўны бой узвод трымаў.
Твой аднагодак ў час апошні
Радкі крывёю напісаў:

«Бывай, Радзіма! Не здаюся!..
І паміраю за цябе...»
Зямля, як маці, ў ціхай скрусе
Яго туліла да сябе.

Як знічка, падала ракета,
Смылелі травы ад крыві...
Запомні, дружа, месца гэта,
Дзе шэпча ўсё табе: «Жыві...»

* * *

На вышыні ля Лудчыц —
Гранітны абеліск,
На вышыні ля Лудчыц —
Жытнёвыя палі.

Тут раннія зязюлі
Адлічваюць гады,
Салдацкія матулі
Ідуць здаля сюды.

Квятамі дол усцелюць,
Пасядуць у цішы,
І кожная надзею
Люляе у душы:

Мо і майму сыночку
Хто-небудзь прыкладзе
Рамонкавы вяночак
Да маладых грудзей?

* * *

Ён — сляпы. З унукамі штодня
Вуліцай зялёнаю кульгае,
Навакол усё яму радня.
Тое, што расце, пяе, буяе.
Трэба ж было выбухнуць бядзе
У тым баі за вёсачку Прылукі...
Вочы яго — родныя унукі —
Пазіраюць ясна на людзей.

* * *

Тут маладыя пахаваны.
Каля сівой пліты стаю.
Дубок падобны на Івана,
Ў бярозцы Мар'ю пазнаю.
Яны сышліся на спатканне
Праз смерць, праз полымя, пасля...
Чуваць мне: «Як жывеш, Іване?
Я — тут, я — побач, я — твая...»
«Ніхто цяпер нас не разлучыць...—
Дубок лісцём шапоча ёй,—
О, як мне радасна-балюча,
Бо ты, каханая, са мной...»
Пліты халоднае здранцвенне
На чуйных пальцах каранёў,
Гамоняць дрэвы. Слоў свячэнне.
Стаю ў палоне галасоў.

* * *

*Кавалеру двух ордэнаў Славы*
*М. М. Філіповічу*

Ля помніка Барысу Хігрыну
Артылерыст расказваў пра вайну.

Дзве «Славы» ззялі на яго грудзях —
Высвечвалі яны салдацкі шлях:

Дарогі, пераправы, гарады,
І папялішчаў чорныя сляды,

І першы бой, і мёртвыя сябры
Пад сцягам акрываўленай зары.

У ясназорых ордэнах было
Агню непераможнае святло,

Што ля Сцяны Крамлёўскае гарыць,—
Нікому той агонь не патушыць!

Ля помніка Барысу Хігрыну
Артылерыст расказваў пра вайну.

* * *

Люблю жыццё. Таму і не гадаю,
Што мне накавана на вяку.
Я даўніну у памяці люляю
І ў светлы дзень працягваю руку.

* * *

Мо старэю дачасна
Пад цяжарам гадоў?..
Сэрца просіць прычасця
У лясоў і палёў.
Хопіць мне і глыточка,
Каб прарваць немату,
Песні светлым лісточкам
На зямлі прарасту.

* * *

Дзе сонца спуджаным глушцом
Яшчэ трапеча паміж ёлак,
Ласіха з кволым ласянём
З узлеску выйшла на прасёлак.
У гэту хвілю, дружа-бор,
Не выдай стуку майго сэрца.
Ласіха — вогненны касцёр,
А побач — чуйнае цяпельца.

* * *

Сосны — чуйныя нервы зямлі,
Вы былое звязалі з сучассем,
Нібы з бронзы, адліты камлі,
Вашы кроны мне сонца не засцяць.

Ганаруся, што ваш і мой род
На адной гадаваны зямліцы,
Дык шуміце ж вы тысячы год,
Каб жыцця не засохлі крыніцы!

* * *

Стаміўся, сябры, я няйначай
Ад важных папер і званкоў.
Паеду, паеду на Начу
Ды буду лавіць печкуроў.
Сцяжынку сваю адшукаю
Да месцаў грыбных у бары,
Пачую, як сосны спяваюць,
Як граюць на гуслях вятры.
Пракосамі ў лузе адзначу
Адданасць бацькоўскай касе...
Паеду, паеду на Начу —
Душой адпачну пакрысе.

* * *

У Сяляве чайкі мыюць крылы,
Ліжуць хвалі сонечны пясок,
На баку пад вербаю пахілай
Выцяўся прасмалены чаўнок.
А рыбак прысеў на прыбярэжжы,
Выцер пот натомленай рукой,
Сонейка ў развешаных мярэжах
Рыбкаю трапеча залатой.

* * *

Нібы дзеці, ў небе плачуць гусі,
Доўга будуць крыкі іх чуваць,
Над лясамі роднай Беларусі
Зноў дажджы грыбныя шалясцяць.

Абуджаюць сонныя грыбніцы
Пад лістотай прэлай і травой,
Познія абабкі і лісіцы
Просяцца ў лазовы кошык мой.

Ды ў душы няма задавальнення
Ад сырой тужлівай цішыні.
І грыбоў апошніх нараджэнне —
Як пралог асенняй цеплыні.

* * *

У рачулкавай плыні
Аблачынка плыве,
Сняцца майскія ліўні
Верасноўскай траве,

Ды пад восеньскім ветрам
Луг зусім пасівеў.
Асыпаецца лета,
Асыпаецца з дрэў.

* * *

На мёрзлы дол сягоння зранку
Снег тонкім слоем лёг,
Гнязда буслінага вушанку
Надзеў азяблы клён.
Абуўшы новыя валёнкі,
Я крочу паўз дамы.
Мой след — нібы радочак звонкі
На аркушы зімы.

* * *

Ў марозным небе рэактыўны
Праклаў шнурочак-баразну,
Трымцяць азяблыя вярбіны
Ў палоне лютаўскага сну.
Кранаю снежную галіну
Сваёю цёплаю рукой,
Мо разгадаю на хвіліну
Зімы чароўны супакой?

* * *

Схаваўся дзень за полаг чарнаты,
Трымцяць пад ветрам восеньскім вярбіны,
Маладзічок, як пеўнік залаты,
Дзяўбе зярняты зорак над хацінай.

І хмеліць прэлым водарам трава,
Туман на агародах заклубіўся,
І хочацца так шчыра заспяваць,
Нібыта ўпершыню на свет з'явіўся.

* * *

Пахне бор суніцамі і хвояй,
Мятаю, гаючаю травой,
Тумаnoў кудлатыя сувоі
Лашчыць ветрык цёплай даланёй.

Ранак крочыць сцежкай баравою,
Што ні крок — святлее у бары,
Ноч заспанай шэраю савою
Крыллямі лапоча ў гушчары.

* * *

Ноччу зарніцы шугалі,
Дождж барабаніў па шкле,
Дрэвы з імглы выраcталі
У прывідным, зыркім святле.

А на світанні бялёсы
Слаўся туман па зямлі,
І на ўсходзе нябёсы
Квеценню палкай цвілі.

* * *

Цёплы дождж праліўся на дасвецці,
Змыў дарожны пыл з густой травы,
І чаромхі белыя суквецці
Серабрацца ў кроплях дажджавых.

За лясы купчастыя аблокі
Гоніць ранак сонечным вяслом,
І зямля жадліва і глыбока
Удыхае веснае цяпло.

* * *

Луг дзяцінства! Птушак шчабятанне,
Разнатраўя росныя званкі
Абудзілі зноўку адчуванне
Цеплыні матулінай рукі.

Удваіх мы з ёй зграбаем сена
У духмяны ліпеньскі стажок.
І яна кладзе на лоб спацелы
Мне далонь: «Перадыхні, сынок».

Расцякаецца па целе стома,
Цеплыня, і хочацца заснуць...
Мама, мама, з даляў невядомых
Я хачу твой голас зноў пачуць.

* * *

Прайшла залева мерным крокам
Ліпнёвым, сцішаным сялом,
Вясёлка у лясах шырокіх
Іскрыцца сонечным крылом.
На вулку выбегла малеча,
Ляціць увысь дзіцячы спеў,
Дуб распасцёр старыя плечы —
На сотню год памаладзеў.

* * *

Як любіў я пасля навальніцы
За вясёлкаю бегчы ў палі.
Вуркаталі грамы таямніча
І, губляючы голас, плылі
За лясы. Станавілася ціха.
І, зірнуўшы на свет маладзей,
Танцавала на ліпе бусліха
Пад шчаслівыя крыкі дзяцей.

* * *

Над старэнькай адрынай
Зорны коўш перакулены,
Пахне мёдам пчаліным,
Бачу постаць матуліну.

Кліча ласкава: «Дзімка,
Сырадой цёплы ў сенцах!..»
Успамін той — радзімка
Каля самага сэрца.

* * *

Прыйшлі вясновыя канікулы,
Лугі паводка заліла,
Пралескі першыя паклікалі
Мяне з бацькоўскага сяла.
Па сцежках, з восені не ходжаных,
Дзе спіць мінулы лістапад,
Хаджу, нібыта заварожаны,—
Я кожнай кветцы сёння рад.
На дрэвах сонейка гайдаецца,
Наўкола гэтулькі святла!..
Матулі любай прызначаецца
Букет блакітнага цяпла.

* * *

Паўдзённы, цёплы, лёгкі,
Пад музыку грамоў
Дождж-грыбасей у скокі
Па вуліцы пайшоў.
Адразу ачуняла
Сасмяглая трава,
І з дождыкам скакала
Па лужынах дзятва.

* * *

Ах, які сягоння дзень шчаслівы!
«Паглядзі,— заве мяне дачка,—
Вучаць галубы-бацькі цярпліва
Маладога лётаць галубка».

Сапраўды, глядзяць яны са страхам,
Каб не ўпаў на дол іх пестунок,
Вось ужо няўпэўнена над дахам
На паўметра ўзняўся галубок.

І дачка запляскала у ладкі:
«Паляцеў, нарэшце паляцеў!..»
Для дарослых вечная загадка —
Непасрэднасць шчырая дзяцей.

* * *

Дзяўчынка корміць галубоў.
Як матылькі, з далонькі крошкі.
Ляцяць, ляцяць, ляцяць далоў
Пярэстым птушачкам пад ножкі.
Маёвых высяў летуны,
Дабра і міру вестуны
Шчыруюць дзюбамі заўзята,
Нібы няма нідзе вайны
І сярод вечнае вясны
Матулі песцяць немаўлятак.

* * *

Аддаю ўсяго сябе дарогам,
Аддаю ўсяго сябе вятрам,
Клопатам штодзённым і трывогам
І жаночым ласкавым рукам,
Тым, што у завею абагрэюць
Кветку, птушанятка і дзіця,
Тым, што ўсе няўдачы перамелюць
У імя кахання і жыцця.

* * *

Любая, ты мне не рада?
Я ужо чужы табе?
Чорная птушка здрады
Сэрца твае дзяўбе.
І над былым даверам
Плёткі, нібы нажы,
Белая птушка веры
Плача ў маёй душы.

* * *

Дзень, як свечка, патух.
Ахінуў вёску морак.
І расцвіў неба луг
Яркай плоймаю зорак.
Буду зноў я блукаць

Там у мроях да рання,
Толькі мне не спаткаць
Нашай зоркі кахання.
А паклічу цябе —
Рэха мне адзавецца
Ды на роснай вярбе
Месяц сумна ўсміхнецца.

* * *

Калі накрые вёску надвячорак,
Калі паснуць у небе жаўрукі,
Люблю глядзець на кроплі першых зорак
На ласкавым крыле тваёй рукі.
Цень ахіне зямлю, дамы і дрэвы,
І доўга буду бачыць уначы,
Як крочыш ты, нібыта каралева,
З маладзіком — дачушкай на плячы.

* * *

Палёў разлегласць — вокам не акінуць,
Задумлівая сцішанасць лясоў.
Народжаны ў цудоўную часіну,
Я да людзей нясу сваю любоў.
І калі лёс мяне далёка кіне
Ад цёплых ніў, ад роднага двара,
Мне васілёк напомніць аб Айчыне,
Прачулы верш Купалы-песняра.

* * *

Калі чытаю Куляшова —
Вялікай шчырасці радкі,
Нібы плыву ў чаўне вярбовым
Па хвалях Бесядзі-ракі.

Таемным пачуццём сагрэты,
З вачмі, вільготнымі ад слёз,
Я чую ранні спеў паэта
Ля саматэвіцкіх бяроз.

Нібы хлапчук усхваляваны
Зноў ціхім берагам ідзе...
Цячэ рака да акіяна,
І не мялець ёй анідзе.

* * *

Сябе я адчуваю сувязным
Далёкіх продкаў і наступных пакаленняў,
Якія мо ў пятнаццатым калене
Мяне гукнуць з трохтысячнай вясны.

Той кліч міне сівых стагоддзяў вехі
І даляціць да гэтых светлых дзён,
Зямля адкажа шматгалосым рэхам,
І хтосьці ціха скажа: «Гэта ён».

* * *

Пахне ў садзе мятаю,
Спяць вяскоўцы ўсе.
Маладзік над хатаю —
Як бабулін серп.
Век жыла — вучылася
Дабраце ў людзей,
Праўнукам малілася,
Божаньку — радзей.
Казкамі, былінамі
Радавала нас...
Светлымі ўспамінамі
Ходзіць позні час.
Пахне ў садзе мятаю,
Спяць вяскоўцы ўсе.
Маладзік над хатаю
Ў залатой расе.

* * *

«Еш, унучак, еш, саколік,
Пэўна, ты абегаў свет...»
Грэе сэрца мне настольнік,
З малаком салодкі хлеб.
А бабуля каля печы
Выцірае твар крадком...
Я шляхі ўзваліў на плечы,
Стыў пад снегам і дажджом.
А прыйшоў — знямеў ад болю,
Дзе гасціннай хаткі след?

Хто засцеле мне настольнік?
Хто мне скажа: «Еш, саколік,
Пэўна, ты абегаў свет!»

* * *

Нарог сталёвы мой не затупіўся,
Хаця ішоў не полем — цалінай.
Гарачы дзень ад працы прытаміўся
І выцер пот вятрыстаю рукой.
Гляджу я на ўзараную дзялянку —
Камення груды, парны травастой,
І не адно руплівае світанне,
Заручанае з роднаю зямлёй.
Я разумею: трэба многа працы,
Каб чарназёму слой схаваў пясок
І на сцяблінцы тонкай змог узняцца
Да сонца першы спелы каласок.

* * *

Задуменнасць восеньскага гаю,
Арабін даспелае святло...
Я ў сабе Радзіму адчуваю
І яе глыбіннае цяпло.
Тут мая адвечная прапіска,
Сярод гэтых пожняў і палёў,
Дзе бяроз лісцвяная калыска
Залюляла смутак жураўлёў.

* * *

Кучаравяцца бярозы
Клейкаю лістотаю,
Па зямлі вясновай босы
Хлопчык рыжы лётае.

Чуб ягоны як агеньчык,
Колеру заранкі...
Пэўна, хлопчык той — праменьчык,
Родны сын Вяснянкі.

* * *

Разлілася весняя паводка,
Затапіла луг і хмызнякі,
Ля вады пакінутая лодка
Падстаўляе сонейку бакі.

З весляром-нябогам сябравала.
Як у край прыходзіла вясна,—
Па-сваяцку з рэчкай размаўляла,
А цяпер на беразе — адна.

Можа, заўтра досвіткам ружовым
Запяе над ёй бензапіла...
Дзед адплыў, як ветразь вечаровы,—
Ні слядоў, ні ценю ад вясла.

## ПРЫЗНАННЕ

Што сказаць пра цябе, каханая?
Ты такая непастаянная:
То грымотная і суровая,
Нібы летняя ноч перуновая.
То спакойная і халодная,
Нібы рэчанька паўнаводная,
То імклівая і гарачая,
Апякаеш душу юначую,
Ў нечым грэшная і нявінная,
Ды ў каханні маім адзіная!

* * *

У мае каляровыя сны
Дзед сягоння пагрукаў з вайны,
У вайсковым усім, на плячы —
Аўтамат. На нагах — кірзачы.
Бы з разведкі вярнуўся начной.
Прывітаўся ён ціха са мной.
І стамлёна на лаўку прысеў,
Край бінта з-пад пілоткі бялеў...
Пра бабулю мяне ўсё пытаў,
Шкадаваў, што жывой не застаў.
Закурыў. Памаўчаў. Уздыхнуў:
«Ну, бывай,— мне пара на вайну!»
Знік у цемрадзі вязкай начы...
Я прачнуўся. Рыпелі драчы
Ці дзядулі майго кірзачы?

* * *

Кліча сяўба на абсяг
Новы, нікім не пачаты.
Я — ўсіх працягаў працяг,
Я — ўсіх пачаткаў пачатак.
Хай нават гэтай вясной
Кіну я ў глебу зярнятка,
Ды праз гады і яно
Жытам усцешыць нашчадка.

## КРЫНІЦА ПАМЯЦІ

Крыніца памяці глыбокая —
Да дна ніколі не дастаць...
Пляскоча рэчка сінявокая,
У травах конікі звіняць.
І хлопчык бацькавай літоўкаю
Пракос дарослацці вядзе...
З крыніцы памяці глыбокае
Я п'ю ўспаміны кожны дзень.

* * *

Зічку ранную з нябёс
Певень здзёўб...
«Каб не звёў тады нас лёс —
Што было б?»

Адказала мне яна:
«Дарагі,
Не таптаді б давідна
Мурагі».

## ПРОНЯ

Рачныя хвалі лашчуць мне далоні,
На блізкіх берагах — святло бяроз...
Жаночае імя ў рачулкі — Проня
І па-жаночаму нялёгкі лёс.
Яна салдатам раны абмывала,
Як медсястра, гаючаю вадой,
Яна маё дзяцінства калыхала
Над галубінай цёплай сінявой.
Ад чаратоў з гадамі пасівела,
Ды ў спеве хваль ўсё тая ж чысціня...
Няпраўда, што рачулка памялела,
У ёй душы жаночай глыбіня!

* * *

Колькі каштуе ўсмешка дзіцячая?
Шчырая, добрая песня матчына?
Колькі каштуе радасць людская?
Колас, што раніцай сонца ўздымае?

Міру на Зямлі.

* * *

Пад раскай дрэмле возера былое,
Балотная шапоча асака,
А чайка ўсё крыляе над вадою
Тугою незваротнай рыбака.

* * *

Нехта дбае пра даўгалецце,
Пра багацце, славу, вянкі,
А маё дык багацце — дзеці,
Дзве малых гаваркіх дачкі.

Я багаты іх дзіўным светам,
Поўным чыстага пачуцця...
Апусціце дзюбы, ракеты,—
На руках у мяне — дзіця!

* * *

Глеба — матуля хлеба,
Праца — яе сястра,
Песні ж патрэбна неба,
Яснае, як зара.

## ЗЯЗЮЛІН ЛЁН

Зязюлін лён,
Як даўні сон,
Мой смутак ён
І твой палон,
Вясна гула,
І ты была,
Куды пайшла,
Каго знайшла?
Я без цябе
Хаджу ў журбе,
Зязюлін лён —
Кахання звон.

* * *

Я — хлебароб. І гэтым ганаруся.
Няма радней нічога для мяне,
Чым водар сена, скошанага ў лузе,
Зязюль куванне з бору па вясне.

Люблю садоў асеннюю крамянасць
І ціхіх вёсак ветлівы спакой...
О як я адчуваю знітаванасць
Душы і цела з роднаю зямлёй.

Не існуе на свеце гэткай сілы,
Якая б адарваць мяне змагла
Ад гэтых ніў... Тут родзічаў магілы...
Крыніца хлебадайнага цяпла.

## ВЯРТАННЕ

Родны бераг. Вербы. Чараты.
Ластаўкі над ціхаю вадою.
Што мяне паклікала сюды
І чаму няма ў душы спакою?

Рукі, што прывыклі да станка,
Да работы цягнуцца бацькоўскай.
Пэўна, не чужы я землякам,
Не забыты роднай маці-вёскай.

* * *

*Касманаўту*
*Уладзіміру Кавалёнку*

Я шлях пачынаў свой няблізкі
З глыбіннай лясной стараны,
Дзе ў кожным сяле абеліскі
Стаяць напамінам вайны,

Дзе свецяць палі збажынаю,
Пад ветрам хвалюецца лён...
Люблю цябе шчырай душою,
Мой ветлівы Крупскі раён.

Табе, нібы роднаму бацьку,
Нясу я задумы свае,
Усё ў нас з табой па-сваяцку:
І песні і хлеб на стале.

* * *

У спеве птушак, шэпце траў,
У шолаху дубровы,
У звоне жыта я збіраў
Для шчырай песні словы.

Я іх праз сэрца прасяваў,
Гады спяліў цярпліва,
І вось сяўбу я прычакаў
На ніве урадлівай.

Гляджу у сутнасць з'яў глыбей,
Бы жыць пачаў спачатку,
Вяртаю доўг, зямля, табе,
Як сейбіт — да зярнятка.

* * *

«Не кахаю...» — голас твой
Адгукнуўся болем,
Разышліся мы з табой,
Як дарогі ў полі.

Ад асенняе слаты
Да марозных ранняў
Будуць сыпацца лісты,
Ажываць — каханне.

* * *

Ужо лістоты жоўты вырай
Закарагодзіў над зямлёй,
Ты не кажы мне слоў няшчырых,
Адкрытай будзь цяпер са мной.
Тугі і радасці прылівы
Ты ў хвалю выплесні адну.
Прад гэтым выраем цнатлівым
Няма ў нас права на ману.

## ГАРАДЖАНКА

Не саромся, каханая, вёскі,
Калі вуліцай крочыш са мной.
Хай глядзяць языкастыя цёткі,
Хай зайздросцяць табе, маладой.
Не стыдайся казаць прывітанне
Кожнай сівай бабульцы ў акне,
Можа, нехта праз наша каханне
І сваю маладосць памяне.

* * *

Ах ты поўня, мая поўня,—
Зімавых начэй ліхтар,
Зноў дзяцінства я прыпомніў,
Ночы светлыя. Буквар.

І хлапчук белагаловы
Ля паўночнага акна,
Як малітву, шэпча словы:
«Мама, ластаўка, вясна...»
Спяць бацькі, а над шпакоўняй
Залаціцца жоўты шар...
Ах ты поўня, мая поўня,—
У краіну слоў ліхтар.

* * *

Абеліск. Імёны на граніце,
Нібы вершаваныя радкі...
Тут, паэты, галавы схіліце
Перад гераізмам і
бяссмерцем,
Што гарачаю крывёю сэрца
Змагарамі ўпісаны ў вякі!

* * *

Мы гаворым пра іх — ветэраны,
На медалі з павагай глядзім,
За якімі — атакі і раны,
Ўся вайна... Да апошніх гадзін.
Мы гаворым пра іх — ветэраны.
Трызніць ім аж да скону вайной.
Успаміны бінтуюць іх раны
Сівізной, сівізной, сівізной.

* * *

А кажуць, быў у вёсцы першым
Мой дзед у працы і ў гульні...
Пакінуў хату ў сорак першым
І не прыйшоў пад ясяні.

Праходзяць без яго вяселлі,
Сенакашэнне і жніво,
І без яго парой вясенняй
Дзядзькі выходзяць на сяйво.

Ды калі я бяру гармонік,
Што на гулянкі дзед насіў,
Бабуля хрысціцца ўтрапёна,
І на губах: «Жывы Васіль»...

* * *

Не ўшчувайце мяне,
Што пішу аб вайне,
На якой сам не быў,
А баі толькі сніў.

Ды часамі ў кіно
Бачыў боль цяжкіх страт;
Я пішу ўсё адно
Пра яе, як салдат.

Праз гады, праз гады
Голас мой малады:

«Попел спаленых хат,
Я — салдат, я — салдат!..»

Не ўшчувайце мяне,
Што пішу аб вайне...
Двух салдатаў я ўнук,
Што за Віслай ляжаць,
І таму пра вайну
Не магу не пісаць.

* * *

Ніколі не зайздрошчу салаўю,
Хоць, як спявак, вядомы ён даволі.
Заўжды знаходжу песню я сваю
Ў асеннім лесе і ў вясеннім полі.
Зімой яе выношу з маразоў
І цеплынёй далоняў саграваю...
А салавей баіцца халадоў,
А салавей зімою не спявае.

* * *

Абывацель сказаў панура:
«Кінь паперу псаваць, не пішы,
Беларуская літаратура,
Бы на водшыбе. У цішы.
І на прашчураўскай мове

Размаўляюць адны дзяды...
А Купала і Багдановіч?
Колас, Броўка заўжды малады?
Хіба можна не чуць іх песні
У кожным нашым кіпучым дні?..
Галасоў колькі звонкіх, весніх
У гарадах на прасторах ніў!
Гартаваная ў віхурах
Ідзе за Партыяй у паход
Беларуская літаратура
Неўміручая, як народ.

## ЗМЕСТ

**Марозаў Зм.**

М 25 Пад небам буслiным: Вершы.— Мн.: Маст. лiт., 1982.— 54 с.— (Першая кнiга паэта).

20 к.

Змiтрок Марозаў удзельнiчаў у рабоце XI фестывалю маладых пiсьменнiкаў СССР у Туве, рэспублiканскiх семiнарах у Доме творчасцi iмя Я. Коласа, быў дэлегатам XVIII з'езда ВЛКСМ.

Зараз малады паэт працуе ў Бялынiцкiм райкоме камсамола, а дагэтуль быў аграномам у адной з гаспадарак вобласцi. Вось таму ў яго вершах так моцна адчуваецца любоў да бацькоўскай зямлi, роднага краю, сваiх працавiтых землякоў.

$М\frac{70403-021}{М 302(05)-82}78-82$

ББК 84Бел7

Бел 2

Первая книга поэта

Дмитрий Дмитриевич Морозов

ПОД НЕБОМ АИСТОВЫМ

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Хв. М. Чэрня. Мастак М. М. Селяшчук. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Т. М. Собалева.

ІБ № 1580

Здадзена ў набор 04.09.81. Падп. да друку 26.11.81. АТ 22620. Фармат 70×90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,05. Ум. фарб.-адб. 3,51. Ул.-выд. арк. 1,80. Тыраж 4000 экз. Зак. 1915. Цана 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

